# Еўропа для беларускіх прадпрыемстваў

1 Доступ беларускай прадукцыі на рынак аб’яднанай Еўропы

2 Рост канкурэнтаздольнасці прадпрыемстваў

3 Спецыяльныя прагамы фінансавання



Беларускі Еўрапейскі Форум

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Еўрапейскі саюз мае спецыяльную праграму для супрацы з суседзямі на ўсходзе, у тым ліку і з Беларуссю. Гэта праграма Еўрапейскай палітыкі добрасуседства і Усходняга партнёрства.

Паміж 1991 і 2006 гг. Еўрасаюз выдаткаваў Беларусі на развіццё краіны 229 млн. еўра, ці 23,6 еўра на аднаго жыхара. Гэта значна менш, чым мелі іншыя краіны-суседзі Еўрасаюзу. Грузія атрымала прыкладна 110 еўра на чалавека, Малдова — 73, Украіна — 52.

Каб напоўніцу карыстацца з дапамогі Еўрасаюзу, Беларусь павінна падпісаць з ім Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве, рэалізацыя якога была перапыненая ў 1996 г. праз парушэнні ў нашай краіне правоў чалавека і прынцыпаў дэмакратыі. Пасля таго як Беларусь далучыцца да гэтай праграмы, будзе распрацаваны План дзеянняў, індывідуальны для кожнай краіны. На сённяшні дзень толькі 3 з 16-ці краінаў-удзельнікаў праграмы «Палітыка добрасуседства» не падпісалі аніводнага з трох асноўных дакументаў праграмы — гэта Беларусь, Лівія і Сірыя.





Беларускі Еўрапейскі Форум



А між тым падтрымка Еўрасаюзам палітычных, эканамічных ды сацыяльных пераўтварэнняў у Беларусі можа значна палепшыць жыццё нашых грамадзянаў.

**Па-першае**, беларусы атрымаюць права наведваць краіны Еўрасаюзу без візаў, а таксама вучыцца там і працаваць.

**Па-другое**, падвысіцца эфектыўнасць працы дзяржаўнай і мясцовай адміністрацыяў, судовай сістэмы, мадэрнізуецца адукацыя, палепшыцца якасць медыцынскіх і камунальных паслугаў, дадатковую падтрымку атрымаюць рэгіёны і сем'і, пацярпелыя ад Чарнобыльскай аварыі.

**Па-трэцяе**, беларусам будзе гарантаваная абарона іх правоў і свабодаў. Рашэнні беларускіх судоў можна будзе аспрэчваць у найвышэйшых еўрапейскіх інстанцыях, а беларускае права і практыка праваспрымянення нармалізуецца згодна з еўрапейскім заканадаўствам.

# ШТО АТРЫМАЮЦЬ АД ЕЎРАІНТЭГРАЦЫІ ПРАДПРЕМСТВЫ БЕЛАРУСІ?

## 1 Доступ беларускай прадукцыі на рынак аб'яднанай Еўропы

### а Мінімізацыя і скасаванне мытаў

Супрацоўніцтва з Еўрасаюзам дазволіць скараціць мыту і тым самым атрымаць значную эканомію фінансавых рэсурсаў для нашых экспарцёраў. А пры выкананні ўсіх адпаведных умоваў у рамках праграмы Усходняга партнёрства магчымае і поўнае скасаванне мыты на беларускі экспарт у еўрапейскія краіны. Адно толькі вяртанне Беларусі ў Генеральную сістэму прэферэнцыяў будзе прыносіць да 400 млн. еўра штогод.

Акрамя таго Еўрасаюз аказвае фінансавую дапамогу для адаптацыі да стандартаў Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Напрыклад, у 2008 г. Украіна атрымала 5 млн. еўра на арганізацыю пераходу да адпаведных стандартаў у сельскай гаспадарцы.

### б Мадэрнізацыя транспартнай і энергетычнай інфраструктуры

Будзе скарочаны час праходжання мытнага кантролю, спрошчаная працэдура дэкларавання і размытнення. Еўрасаюз фінансуе мадэрнізацыю і пераабсталяванне мытных тэрміналаў і пунктаў пропуску, забяспечвае мытныя службы аптычна-валаконнымі сецівамі ды іншым абсталяваннем.

Пачнуць больш інтэнсіўна развівацца галоўныя транспартныя калідоры і, адпаведна, інтэрмадальныя перавозкі. У 2007 г. было выдзелена 7 млн. еўра на гарманізацыю транспартных сістэмаў краінаў-суседзяў Еўрасаюзу з краінамі Цэнтральнай Азіі. У 2008 г. Малдова атрымала 750 тыс. еўра на рамонт міжнароднай аўтатрасы.

Атрымае новыя імпульсы разбудова інтэграванай у сусветны рынак лагістычный сістэмы. Напрыклад, у 2008 г. Еўрасаюз выдзеліў 2 млн. еўра на ўмацаванне міжнародных лагістычных цэнтраў у заходніх краінах СНД і на Каўказе.



Таксама Еўрасаюз выдае гранты для выпрацоўкі новых стандартаў у энергетыцы, што дазваляе пабудаваць стабільны рынак энергіі. У 2007 г. выдзелена 6 млн. еўра на мэты інтэграцыі энергетычнага рынку СНД і падвышэння яго надзейнасці. Да таго ж 1,5 млн. еўра выдаткавана ў 2008 г. на гарманізацыю стандартаў у галіне энергетыкі.

**В Стымуляванне экспарту**

Еўрасаюз стымулюе экспарт краінаў-суседзяў праз спецыяльныя праграмы. Яшчэ ў 2004 г. было выдаткавана 2,5 млн. еўра на праграмы ўмацавання замежнага гандлю ў краінах СНД. У 2008 г. толькі адна Малдова атрымала 1,6 млн. еўра на падтрымку экспарту і прыцягненне іншаземных інвестыцыяў.

**Г Умацаванне трансгранічнага супрацоўніцтва**

Праграмы «Twinning», «Interreg» працуюць ужо доўгі час і ангажуюць значныя фінансавыя сродкі для прыцягнення новых тэхналогіяў у экнамічнае, сацыяльнае і экалагічнае развіццё рэгіёну. Як правіла, гаворка ідзе пра праграмы абмену досведам паміж прафесіяналамі ў вызначаных галінах. Напрыклад, у 2006 г. на дзейнасць цэнтру па каардынацыі праграмаў трансгранічнага супрацоўніцтва ў Беларусі, Украіне і Малдове выдаткавана 2 млн. еўра.

## 2 Рост канкурэнтаздольнасці прадпрыемстваў

### а Інвестыцыі ў эфектыўныя сферы вытворчасці, стварэнне новых працоўных месцаў і мадэрнізацыю старых

Еўрасаюз падтрымлівае стварэнне нацыянальных інвестыцыйных агенцтваў і іх філіялаў у еўрапейскіх краінах. Ініцыююцца змены ў іпатэчным заканадаўстве, што спрашчае доступ да крэдытных рэсурсаў. У 2004 г. на ўмацаванне заканадаўчай базы і інстытутаў іпатэчнага крэдытавання ў краінах-суседзях Еўрасаюз выдаткаваў 3 млн. еўра.

### б Падвышэнне ўзроўню прафесійнай падрыхтоўкі

У межах палітыкі добрасуседства выдаткоўваюцца гранты на падрыхтоўку кіраўнікоў, менеджэраў, экспедытараў, бухгалтараў і іншых спецыялістаў. У 2006 г. выдзелена 11,6 млн. еўра на праграмы



перакваліфікацыі кіраўнічага персаналу ў Расіі, Украіне, Узбекістане і Азербайджане. У 2005 г. 2 млн. еўра скіравана на падрыхтоўку транспартных экспедытараў.

### в Доступ да сучасных тэхналогіяў праз адмысловыя праграмы

Тут магчымыя самыя розныя формы супрацы. Да прыкладу, стварэнне віртуальных гандлёвых пляцовак (электронных біржаў) на сродкі Еўрасаюзу. Нядаўна краіны Паўднёвага Каўказу атрымалі 2,4 млн. еўра на засваенне новых інтэрнэт-тэхналогіяў.

# 3 Спецыяльныя праграмы фінансавання

**Пашырыцца непасрэдная фінансавая падтрымка экалагічных праектаў — ачышчальных збудаванняў, сістэмаў утылізацыі смецця**

Ужо сёння Еўрасаюз фінансуе адаптацыю да Кіёцкага пратаколу: толькі за 2008 г. на гэтыя мэты выдаткавана 5 млн. еўра. Акрамя таго краіны СНД, у межах праграмы супрацьдзеяння глабальным зменам клімату, у 2004 г. атрымалі падтрымку на суму 4 млн. еўра. У 2005 г. 1,4 млн. еўра было выдзелена краінам-суседзям на развіццё аднаўляльных крыніцаў энергіі.



Будуць прынятыя сучасныя санітарныя і фітасанітарныя нормы, што палепшыць сістэму кантролю за стандартамі. Гэта дазволіць прадаваць прадукцыю на больш шырокім рынку. Грузія ў 2007 г. атрымала ад Еўрасаюзу 1 млн. еўра на ўдасканаленне нарматыўнай базы па санітарным і фітасанітарным кантролі. У 2007 г. для азіяцкіх краінаў СНД было выдзелена 1,8 млн. еўра на разгортванне цэнтраў сертыфікацыі транспартных сродкаў для перавозкі грузаў, якія хутка псуюцца.

Важная частка спецыяльных прагамаў — сектаральныя. Напрыклад, горназдабывальная прамысловасць Украіны ў 2008 г. атрымала ад Еўрасаюзу 8 млн. еўра.

«Цывілізацыйна, гістарычна і культурна Беларусь — неад'емная частка Еўропы.

Незалежнасць, дэмакратыя, росквіт і далейшае развіццё нашай Бацькаўшчыны наўпрост залежаць ад паспяховасці нашых намаганняў па інтэграцыі ў еўрапейскую эканамічную і палітычную прастору. Гэта гістарычны выклік для нашай краіны, уладаў і грамадзянскай супольнасці.

Я веру ў еўрапейскі шлях і будучыню Беларусі.»

Аляксандр Мілінкевіч
*старшыня Руху «За Свабоду»*

**Рух «За Свабоду»**
**www.milinkevich.org**
**п/с 148, Мінск, 220005**

**Аргкамітэт Беларускага Еўрапейскага Форуму**
**www.euraforum.info**

**Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі**
**www.delblr.ec.europa.eu**


Беларускі Еўрапейскі Форум

Наклад 2000 ас. Замова №215.
Надрукавана на абсталяванні выдавецтва «Лорэнс-прэс», г. Смаленск